Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 380.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 2083

# НАВІНЫ



Пятніца, 28 жніўня 1998 г. | № 90 | Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## У Літву – на самалёце

*Беларускі ваенны самалёт парушыў паветраную прастору суседняй дзяржавы*

Як паведаміла Балтыйская служба навінаў (*BNS*), 25 жніўня ў другой палове дня беларускі ваенны самалёт парушыў паветраную прастору Літвы, заляцеўшы на некалькі кіламетраў на яе тэрыторыю.

Па дадзеных прэс-службы дэпартамента пагранічнай паліцыі, літоўскія памежнікі заўважылі ў раёне вёскі Дубічы на вышыні 150 метраў ваенны самалёт маскіровачнай афарбоўкі. Праз дзве хвіліны самалёт вярнуўся ў Беларусь у напрамку населенага пункта Забалоцце.

Па словах камандуючага ВПС Зянонаса Вегелявічуса, аб гэтым інцыдэнце адразу ж было паведамлена ў літоўскае МЗС. Вегелявічус адзначыў, што вядзецца расследаванне, аб выніках якога будзе паінфармаваны міністр абароны рэспублікі.

Высокапастаўлены супрацоўнік МЗС Літвы паведаміў, што міністэрства замежных справаў чакае вывадаў мінабароны. Калі будзе зафіксаванае парушэнне паветранай прасторы, то па загадзе камандуючага ВПС павінна быць сфарміраваная камісія, якая прадставіць заключэнне аб расследаванні міністру абароны, а ён, у сваю чаргу, — МЗС. Толькі на падставе такога заключэння МЗС можа прадпрыняць дыпламатычныя захады, дыяпазон якіх, як адзначыў дыпламат, вельмі шырокі.

Па словах камандуючага ВПС, сёлета гэта ўжо трэцяе парушэнне паветранай прасторы Літвы беларускімі самалётамі.

*БелаПАН—BNS*

## Данія дапаможа Браслаўскім азёрам

**Беларускае міністэрства прыродных рэсурсаў запрасіла спецыялістаў з Даніі для выратавання Браслаўскіх азёраў.**

Гэтыя унікальныя вадаёмы з'яўляюцца запаведнай тэрыторыяй, але мясцовыя прадпрыемствы, як і раней, скідваюць сюды брудныя сцёкі. Беларускія эколагі сцвярджаюць, што "гэта спрые хуткаму старэнню вадаёмаў". Асаблива небяспечная сітуацыя склалася на возеры Балойса, куды трапляе фосфар і азот у памерах, значна вышэйшых за санітарныя нормы. Самастойна выправіць сітуацыю не можа нават ведамства Ціцянкова, якому належыць Браслаўская запаведная зона. Дацкія эксперты ў верасні пачнуць абследаванне азёраў. Беларускі бок спадзяецца з іх дапамогай пабудаваць неабходныя ачысныя сістэмы.

Супрацоўніцтва з Даніяй працягваецца з 1993 года. За гэты час у беларускую эканоміку інвеставана 50 мільёнаў дацкіх крон. Адзін з сумесных праектаў, які цяпер ажыццяўляецца, звязаны з утылізацыяй старых, нявыкарыстаных пестыцыдаў.

**Сяргей КАВАЛЁЎ**

## Вось і лета прайшло...



# Ваяж у Крым

**На момант падпісання гэтага нумара прэзідэнт Лукашэнка яшчэ знаходзіўся на Украіне. Ён накіраваўся туды ў сераду, каб сустрэцца ў Крыме з украінскім прэзідэнтам Леанідам Кучмам.**







Напярэдадні візіту Лукашэнка даў у Мінску інтэрв'ю журналістам украінскага тэлебачання. Рыгоравіч пахваліўся беларускімі дасягненнямі і заявіў, што ў нас назапашана дастатковая колькасць паліва, таму ніхто зімой мёрзнуць не будзе, усё гэта, маўляў, выдумкі апазіцыі. Лукашэнка таксама сцвярджаў, што Беларусь без праблемаў можа расплаціцца з Расіяй: 200 мільёнаў долараў за газ і 100 мільёнаў за нафту нам вярнуць не складана, гэтая сума для дзяржавы мізэрная — хваліўся Лукашэнка. Украінцы, відаць, былі нямала здзіўленыя, пачуўшы ад прэзідэнта, што Беларусь такая багатая краіна. Пасля Рыгоравіч традыцыйна пачаў абвінавачваць апазіцыю. *«Апазіцыя абяцае, што пасля яе прыходу да ўлады сярэдняя зарплата ў краіне будзе 250 долараў, няхай пакажуць гэтыя грошы і я заўтра гатовы пайсці ў адстаўку»,* — заявіў Лукашэнка.

У адрозненне ад «апазіцыйных дэмагогаў» сам Лукашэнка, па яго словах, займаецца канкрэтнай справай: з 1 кастрычніка ў Беларусі зарплата будзе паднятая на 20 працэнтаў, а з 1 студзеня — яшчэ працэнтаў на 30. Праўда, Рыгоравіч нічога не сказаў, наколькі вырастуць цэны ў параўнанні з зарплатай.

Кіруючыся на Украіну, Лукашэнка меў намер абмеркаваць з Кучмам праблемы паставак у Беларусь цукру, алею і пшаніцы, а таксама вырашыць пытанне аб перадачы ва ўласнасць нашай краіны некаторых чарнаморскіх санаторыяў. Беларускае кіраўніцтва таксама настойвае, каб Украіна прызнала свой доўг перад **нашай краінай, які складае 200** мільёнаў долараў. Тым часам Леанід Кучма хацеў пачуць ад Лукашэнкі адказ, калі Беларусь ратыфікуе падпісаную дамову аб мяжы. Украіна імкнецца хутчэй увайсці ў еўрапейскія структуры і пытанне аб украінска-беларускай мяжы не можа доўга заставацца адкрытым.

Аднак у прэс-службах абодвух прэзідэнтаў упарта замоўчвалі галоўныя прычыны паездкі Лукашэнкі ў Крым. Чыноўнікі сцвярджалі, што гэта проста «сустрэча без гальштукаў» лідэраў дзвюх краінаў. Праўда, некаторыя крыніцы сцвярджалі, што падчас сустрэчы гаворка пойдзе і пра паратунак ад расійскага фінансавага крызісу.

Але, прыехаўшы ў госці да Кучмы, на Чарнаморскае ўзбярэжжа, Лукашэнка не падазраваў, што апынецца ў даволі цікавай кампаніі. У тэрміновым парадку ў Крым прыбылі в.а.прэм'ера Расіі Віктар Чарнамырдзін і распарадчы дырэктар Міжнароднага валютнага фонду Мішэль Камдэсю. МВФ патрабуе ад украінскага кіраўніцтва прыняць захады дзеля таго, каб расійскі сцэнар не паўтарыўся на Украіне, бо толькі ў гэтым выпадку Украіна атрымае ад МВФ крэдыт у 2 мільярды долараў. Чарнамырдзіну таксама было неабходна сустрэцца з кіраўніком уплывовай фінансавай арганізацыі і запэўніць яго, што новы расійскі ўрад прыме ўсе меры, каб стабілізаваць эканамічную сітуацыю ў краіне. І толькі Лукашэнка без гальштука выглядаў на фоне гэтых палітыкаў бедным сваяком, які не ведаў, у які вугал прыткнуцца.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Расійскі ўдар па беларускім «зайцы»

**У Беларусі курс долара зноў пачаў расці. Калі на пачатку тыдня ён складаў 70—75 тысяч рублёў, то ўжо ў сераду «чорны» наяўны курс павялічыўся амаль да 80 тысяч. А ўчора на «чорным рынку» долары калі нехта і прадаваў, то не менш, чым па 85 тыс.рублёў.**

Фінансавы крызіс у Расіі працягвае ўплываць на беларускую рэальнасць. Як каментуюць становішча беларускія банкіры, усе расійскія праблемы хутка адбіліся на курсе беларускай валюты і коштах на тавары ў беларускіх крамах. *«Паведамленне аб дэвальвацыі расійскага рубля на 20 працэнтаў выклікала дэвальвацыю беларускага на 30%»,* — зазначыў адзін з банкіраў.

Падзеі з курсам валюты — гэта вынік нашай залежнасці ад Расіі. Напрыклад, расійскія банкі — найбуйнейшыя гандляры беларускім рублём. І калі гаворка ідзе аб іх выжыванні, яны скідваюць няўстойлівую беларускую валюту. Да таго ж, 70 працэнтаў беларускага экспарту ідзе ў напрамку Расіі. Большасць імпарту таксама мае расійскае паходжанне.

Неплацежаздольнасць расійскіх пакупнікоў, іх банкаў адбіваецца на беларускіх прадпрыемствах. Беларускія банкі ўжо не гарантуюць плацяжоў па Расіі. Накапленні беларускіх прадпрыемстваў у расійскіх рублях дэвальвуюцца разам з расійскімі рублямі. Зрэшты, такі ж працэс ідзе і з валютнымі рэзервамі Нацыянальнага банка Беларусі, якія ён накапліваў пераважна ў расійскіх рублях.

Пакуль расійскія праблемы адбіліся толькі на курсе долара і коштах у нашых крамах. Але ўплыў расійскага фінансавага крызісу на ўзровень жыцця сярэдняга беларуса, на думку спецыялістаў, гэтым не абмяжуецца.

Залежнасць беларускіх прадпрыемстваў і беларускіх банкаў ад гандлю з Расіяй можа прывесці да сур'ёзных фінансавых праблем. Не атрымаўшы выручкі з Расіі, згубіўшы ад дэвальвацыі частку сваіх валютных запасаў, нашыя прадпрыемствы не змогуць разлічыцца з банкамі, рабочымі і гэтак далей. Банкі, улічваючы іх цесныя сувязі з расійскімі структурамі, таксама знаходзяцца ў вельмі няўстойлівым стане — амаль кожны з іх згубіць ці ўжо згубіў частку грошай у Расіі.

Таму не выключаны, на думку спецыялістаў, праблемы і з выплатамі заробку, вяртаннем укладаў і г.д.

**Алесь САДОЎСКІ**

### *Візіты*

У суботу з афіцыйным візітам у Мінск прыбывае прэзідэнт В'етнама Чан Дык Лыонг. Ён сустрэнецца з прэзідэнтам Беларусі, прэм'ер-міністрам, а таксама наведае шэраг сталічных прадпрыемстваў.

### *Пратэст*

Прэзідэнт міжнароднай арганізацыі «Урачы за правы чалавека» Шарль Клеман накіраваў прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку ліст у абарону зняволеных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава.

### *Пошта*

На міжнароднай філатэлістычнай выставе «Прага-98», якая пройдзе з 10 па 13 верасня ў Нацыянальным паштовым музеі Чэхіі, паштовае ведамства Беларусі прадставіць новыя беларускія паштовыя маркі.

## Шукалі міну ў бензіне

**Тры дні не працавала адна з заправачных станцыяў у Магілёве.**

Прычына: сапёры шукалі міну. Дзеля гэтага прыйшлося нават выкачаць паліва з усіх 10 рэзервуараў запраўкі. Міну не знайшлі. Цяпер міліцыя шукае "тэлефоннага тэрарыста».

**Іван ЗАСАДА**

# Свастыка на помніку

*У цэнтры Брэста невядомыя вандалы апаганілі мемарыяльны помнік ахвярам габрэйскага гета.*

На мануменце, усталяваным у 1992 годзе ў памяць аб 34 тысячах габрэяў, расстраляных нацыстамі ў часы Другой сусветнай вайны, нехта фарбай намаляваў фашысцкую свастыку. Старшыня брэсцкага таварыства «Халакост» Аркадзь Бляхер звярнуўся ў міліцыю з заявай, у якой просіць праваахоўныя органы знайсці і пакараць вінаватых у апаганьванні помніка. Цяпер па гэтым факце супрацоўнікі Ленінскага РАУС Брэста праводзяць папярэдняе расследаванне.

Як нам паведаміў Аркадзь Бляхер, помнік хутчэй за ўсё прыйдзецца дэмантаваць і чысціць ад фарбы на камбінаце рытуальных паслугаў, каб не пашкодзіць мемарыяльныя надпісы на мануменце. Дарэчы, усе выдаткі па рэстаўрацыі помніка бяруць на сябе гарадскія ўлады. Сп.Бляхер не выключае, што акт вандалізму ўчынілі мясцовыя падлеткі-хуліганы з прафашысцкай арганізацыі т.зв. «брытагаловых».

**Язэп СІНІЦКІ**

## Дапамогі не будзе

**26 жніўня кіраўнік місіі Сусветнага банка ў Беларусі Дэвід Філіпс на сваёй прэс-канферэнцыі аб'явіў, што ў бліжэйшы час ён пакіне Беларусь.**

Тэрмін ягоных паўнамоцтваў заканчваецца. З ад'ездам сп.Філіпса статус прадстаўніцтва банка ў Беларусі будзе зніжаны. Гэта звязана з тым, што Сусветны банк прыняў рашэнне прыпыніць падрыхтоўку новых праектаў у нашай краіне, таму што лічыць бесперспектыўнай сучасную эканамічную палітыку Беларусі.

**Алесь САДОЎСКІ**

## Браты па зброі

**Каля 60 беларускіх афіцэраў адбылі на вучобу ў ваенныя акадэміі Расійскай Федэрацыі.**

26 жніўня, напярэдадні ад'езда, у міністэрстве абароны з імі сустрэўся кіраўнік ваеннага ведамства генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў. Міністр адзначыў, што, згодна з існуючымі расійска-беларускімі дамоўленасцямі, з гэтага года афіцэры з Беларусі будуць вучыцца ў ваенных акадэміях разам з расіянамі, а не на спецфакультэтах як іншаземцы. Па ягоных словах, беларускія слухачы будуць дапушчаныя да вывучэння сакрэтных дакументаў, тэхнікі і ўзбраення.

*БелаПАН*

## У Магілёве хацелі павіншаваць прэзідэнта

**Магілёўскі гарвыканкам забараніў мясцоваму праваабарончаму цэнтру правядзенне пікета, прысвечанага дню нараджэння Аляксандра Лукашэнкі.**

Мэтай пікета праваабаронцы назвалі «Выражэнне ўдзячнасці ў сувязі з днём нараджэння прэзідэнта і інфармаванне Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі аб парушэнні правоў Дэмакратычнага прафсаюза транспартнікаў». У адказе намеснік старшыні гарвыканкама Уладзімір Цумараў паведаміў, што дазволіць гэты пікет нельга — па той прычыне, што ініцыятары не паведамілі змест лозунгаў, якімі збіраюцца віншаваць Рыгоравіча.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Хлеб на дарогах

**У большасці калгасаў і саўгасаў Магілёўскай вобласці убраны з палёў хлеб перавозяць такім чынам, што значная яго частка застаецца на дарогах.**

Дакладныя лічбы стратаў невядомыя. Але, як сведчыць начальнік абласной ДАІ палкоўнік Якаўлеў, амаль усе ўезды-выезды з гаспадарак сёння пасыпаны хлебам. Супрацоўнікі ягонай інспекцыі спецыяльна даследавалі гэтую праблему. Як высветлілася, такое становішча ў кожнай гаспадарцы.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## У калгаса забралі зямлю

**Улады Іўеўскага раёна вырашылі забраць у калгаса «Сураж» 143 гектары зямлі, у асноўным пашы.**

Землі гэтыя кепска выкарыстоўваліся, зарасталі пустазеллем. Зямлю раздадуць трох суседнім калгасам. Ім пастаўлена пры гэтым умова: засеяць «канфіскаваную» зямлю да 15 верасня азімымі культурамі. Калі гэта не будзе зроблена, уладам давядзецца зноў думаць, што рабіць з пашай.

**Андрэй ДУРЭЙКА**

## Парсюк – ад рэдакцыі

Рэдакцыя газеты «Астравецкая праўда» правяла латарэю сярод сваіх падпісчыкаў. На розыгрыш паступіла 178 квіткоў. Сярод чытачоў было разыграна 12 прызоў, у тым ліку адзін парсюк. Яго выйграў жыхар Астраўца У.Ігнатовіч. Сам парсюк на мерапрыемстве не прысутнічаў, а чакаў новага гаспадара ў калгасе імя Чапаева.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Усе – на рамонт платоў!

*Навагрудак рыхтуецца да юбілею*

**Навагрудскі райвыканкам звярнуўся з заклікам да жыхароў горада з нагоды 200-х угодкаў Адама Міцкевіча. Праўда, пра паэзію не гаворыцца ні слова. Тэма звароту іншая.**

Паколькі да ўгодкаў паэта, якія будуць адзначацца 10-12 верасня, спешным парадкам рамантуюць ледзь не ўвесь горад, сюды сцягнуты брыгады з суседніх раёнаў. Але рук на ўсё не хапае. Таму начальства заклікае жыхароў цэнтральных вуліцаў — Міцкевіча, Савецкай, Леніна ды іншых самастойна і тэрмінова адрамантаваць платы каля сваіх дамоў. Пры гэтым прапануецца штыкетнік па 40 тысяч рублёў за пагонны метр або гатовыя часткі плоту па 289 тысяч. Калі хто не мае грошай, можна напісаць заяву ў райвыканкам і атрымаць штыкетнік за палову кошту або ўвогуле бясплатна.

У райвыканкаме адбылася нарада, прысвечаная рамонту горада. Аказалася, што катастрафічна не хапае тратуарнай пліткі для плошчы Леніна і сквера. Замест яе пачалі нават заліваць тратуар бетонам. На свяце чакаецца шмат замежнікаў, пераважна палякаў. Але ў мясцовым гатэліку не паспяваюць усталяваць новую сантэхніку. Дарэчы, Навагрудак наведаў старшыня аблвыканкама А.Дубко, каб асабіста ўсё агледзець. Рэч у тым, што паэтычнае свята можа наведаць сам Лукашэнка.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**



IREX/ProMedia

*Усё гэтае лета Навагрудак нагадваў вялікую будаўнічую пляцоўку.*

## У Беларусь вяртаецца прыгоннае права

*Наша газета пра гэта ўжо пісала. Цяпер мы маем афіцыйнае пацверджанне, якое было апублікаванае ў дзяржаўнай прэсе*

> М.В. Мясникович рассмотрел вопросы обеспечения колхозов трудовыми ресурсами, при этом было поддержано предложение председателя райисполкома и руководителей хозяйств о принятии исполнительными органами решения о приеме сельских жителей на работу в городах только с согласия местного исполкома.
>
> **Пресс-служба Президента Республики Беларусь.**

Прэс-служба прэзідэнта паведаміла пра сустрэчу шэфа прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіла Мясніковіча з кіраўнікамі Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці.

З паведамлення вынікае, што нашыя ўлады плануюць прыняць рашэнне аб *«прыёме сельскіх жыхароў на работу ў горад толькі са згоды мясцовага выканкама»*. Гаворка ідзе пра фактычную забарону на змену прафесіі для сельскіх жыхароў. Такім чынам, да праблемы прапіскі, без якой немагчыма ўладкавацца на дзяржаўнае прадпрыемства ці атрымаць медыцынскае абслугоўванне, дадаецца патрабаванне атрымаць дазвол сельскага выканкама. Гэта значыць, што і на прыватным прадпрыемстве чалавек з сельскай прапіскай працаваць не зможа. Напрыклад, праверыць міліцыянт у прадаўца ў кіёску пашпарт — а ну, галубчык, пакажы дазвол выканкама, што цябе ў горад адпусцілі.

Відаць, што ўцёкі моладзі ад галечы і непрабуднага п'янства беларускай вёскі сталі сур'ёзнай праблемай для кіраўніцтва краіны. Але вырашаць яе будуць, як заўсёды, шляхам усялякіх забаронаў. Да папрокаў у парушэнні правоў чалавека кіраўніцтва Беларусі ўжо прызвычаілася, а арганізавана пратэсту не будзе хаця б таму, што беларуская апазіцыя — толькі ў гарадах і праблемамі вёскі амаль не цікавіцца. Самае пікантнае ў тым, што менавіта вёска прывяла Лукашэнку да ўлады і менавіта вёска дапамагла яму выйграць усе рэферэндумы.

**Марк БЕРНШТЭЙН**





## «Франтавыя» будні

Дзякуючы тэлебачанню мы маглі рэгулярна сачыць за ходам вайны ў Персідскай затоцы, у былой Югаславіі, у Чачні. Сёння я адчуваю сябе на мясцовым тэатры ваенных дзеянняў — дзякуючы нашым дзяржаўным *mass media*. Тэрміналогія ўсё тая ж, варта толькі пагартаць прэсу. Загалоўкі вельмі баявыя: «Героі жніва», «10 ударных дзён жніва», «Твае героі, жніво!» і г.д.



Перыядычна які-небудзь «полк» робіць нешта незвычайнае, пра што неадкладна паведамляецца ў Мінск цэнтральнаму камандаванню. У адказ на пераможную рэляцыю паступаюць віншаванні ад самога галоўнакамандуючага альбо ад начальніка штаба Лінга. Апошні толькі што пахваліў калгаснікаў з «Прагрэсу» Гродзенскага раёна: маўляў, чэсць і хвала перамоўцам! Тры калгасы гэтага раёна сабралі нейкі зусім не савецкі ўраджай — больш як па 60 цэнтнераў з гектара. Як здараецца на любой вайне, адбываецца перадыслакацыя тэхнікі. Камбайны з Гродзенскага раёна, дзе жніво збольшага закончана, перакідаюцца ў Ашмянскі, Свіслацкі і гэтак далей. Камандуючы Гродзенскім фронтам Дубко паставіў задачу-максімум: завяваць на аднаго жыхара вобласці па адной тоне збожжа.

Вораг, праўда, не дрэмле, усяляк перашкаджае, праводзіць ідэалагічныя дыверсіі. На вайне як на вайне! Напрыклад, на Гродзенскім фронце нанесены моцныя страты славянскаму братэрству — афіцыйнай ідэалогіі нашай арміі. Самымі лепшымі на ўсіх франтах танкістамі, прабачце, камбайнерамі — прызнаны экіпаж з гродзенскага калгаса «Капцёўка», які намалаціў найбольш збожжа. На жаль, на падсунутым нашымі ворагамі з NATO амерыканскім камбайне «Джон-Дзір». Самае шкоднае, што мясцовымі спецыялістамі прызнана адназначна, што гэты камбайн у тры разы больш прадукцыйны, чым хвалёны расійскі «Дон-1500». Вунь, у Іўеўскім раёне ў адзін дзень спыніліся адразу тры такія «Доны» — карацей, ненадзейная тэхніка. Самае непрыемнае для нашых «генералаў», што «амерыканец» каштуе 165 тысяч долараў, а рускі — 120 тысяч. Гэта той выпадак, калі гавораць: мы не такія багатыя, каб купляць танныя рэчы.

Добра што хоць цэнтральнае камандаванне не забірае ўсе «трафеі». Маўляў, здайце дзяржаве 275 тысяч тонаў збожжа, астатняе можаце сабе пакінуць. Між іншым, байцоў трэба і павесяліць. Таму 20 тысяч тонаў ячменю пойдзе на прыгатаванне піва, а 22 тысячы тон збожжа — на спірт.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Украінцы пакрыўдзіліся

**Кіраўніцтва беларускіх гарадоў, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы, адмовілася ад удзелу ва ўстаноўчай канферэнцыі новай грамадскай арганізацыі — Міжнароднай асацыяцыі прычарнобыльскіх гарадоў.**

Як ужо паведамлялася, у горадзе Корасцень (Жытомірская вобласць, Украіна) па ініцыятыве мэра горада Уладзіміра Маскаленкі павінна была адбыцца сустрэча прадстаўнікоў больш за 20 прычарнобыльскіх гарадоў Беларусі, Расіі і Украіны з мэтай заснавання Міжнароднай асацыяцыі прычарнобыльскіх гарадоў, якія найбольш пацярпелі ад наступстваў ядзернай катастрофы. У старажытны горад былі запрошаныя пасланцы беларускіх гарадоў Гомельскай вобласці — Гомеля, Брагіна, Веткі, Кармы, Нароўлі, Мазыра, Хойнікаў, Чачэрска, а таксама Магілёва, каб вызначыць асноўныя накірункі сумесных дзеянняў у вырашэнні экалагічных, медыцынскіх і фінансавых аспектаў праблемы мінімізацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.

Як паведаміў прадстаўнік Карасценьскага гарвыканкама Ігар Смагін, *«кіраўніцтва беларускіх і расійскіх гарадоў праігнаравала наша запрашэнне і нашу канферэнцыю»*. Па яго словах, з Беларусі прыехалі прадстаўнікі Мазыра.

Па выніках устаноўчай канферэнцыі прыняты дэкларацыя, статут Міжнароднай асацыяцыі прычарнобыльскіх гарадоў, зацверджана яе структура. Галоўнай мэтай дзейнасці асацыяцыі, адзначаецца ў статуце, з'яўляецца развіццё эканамічных і культурных кантактаў паміж жыхарамі прычарнобыльскіх гарадоў Беларусі, Расіі і Украіны для абмену вопытам і аказання ўзаемадапамогі ў справе ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Мэр Карасценя Уладзімір Маскаленка прапанаваў удзельнікам асацыяцыі дабівацца набыцця статуса свабоднай эканамічнай зоны для сваіх гарадоў, каб у будучыні адмовіцца ад бюджэтнага фінансавання сацыяльных праграм.

*БелаПАН*

# У нас, у Баранавічах...

Наколькі мне вядома, толькі ў горадзе Баранавічы, дзе я жыву, бяруць плату за выхад на перон чыгуначнага вакзала. Плата, праўда, пакуль што чыста сімвалічная — усяго 1.500 рублёў. Што ні кажы, няблага прыдумана. Можа варта было б распаўсюдзіць баранавіцкі вопыт па ўсёй краіне і ўвесці плату не толькі за выхад на перон, але і за прысутнасць у іншых жыццёва неабходных для чалавека месцах. Уявіце, колькі дадатковых грошай атрымае бюджэт нашай краіны! I тады мы сапраўды абыдземся без крэдытаў гэтых «загнивающих» капіталістаў.

Дарэчы, нядаўна «наш дорогой» прэзідэнт не абмінуў сваёй увагай мой родны горад і прыехаў, у прыватнасці, на баваўняны камбінат, дзе працую і я. Цэлы тыдзень перад тым «работяшчыя жэншчыны» мылі, чысцілі і фарбавалі ўсё, што толькі можна было. А вось сустрэцца са сваім кумірам, пагаварыць ці хоць бы глянуць здалёк у праўдзівыя вочы свайго прэзідэнта, за якога яны галасавалі, ім так і не дазволілі. Ну, няхай бы ўжо сабе «бэнээфаўцаў», такіх, як я, закрылі б у якой майстэрні на замок, каб не высоўваліся падчас побыту на прадпрыемстве Рыгоравіча. А то ж, «понимаешь», патэнцыйных выбаршчыкаў, прыхільнікаў палітыкі кіраўніка дзяржавы не падпусцілі блізка да прэзідэнта, не далі паскардзіцца добраму «царю-батюшке» на ягоных няверных «опричников-слуг» з адміністрацыі прадпрыемства і гарадской «вертыкалі», якія крыўдзяць «простых» людзей. Ці то «всенароднюизбранный» стаў баяцца свайго народа, ці то дырэктарскі корпус баіцца згубіць свае хлебныя месцы — я так і не даведаўся. I яшчэ аднаго я не магу зразумець. Куды прыехаў Лукашэнка — ці то на баваўняны камбінат, які выпускае тканіны, ці то на «зону», бо ў чаканні картэжу аўтамабіляў і прэзідэнцкага верталёта працоўных не выпускалі за тэрыторыю цэхаў нават паабедаць?

Памятаю, як пасля абрання на сваю пасаду, увосень 1994 года, першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь упершыню прыехаў на маё роднае прадпрыемства і паабяцаў вырашыць «женский вопрос». Тады ён яшчэ «размаўляў з народам», і вакол яго не круцілася столькі ахоўнікаў. З таго часу прайшло амаль 4 гады, і, тым не менш, наш гігант лёгкай прамысловасці як прастойваў на 70%, гэтак і прастойвае цяпер, нягледзячы на тое, што прэзідэнт паабяцаў «запустить заводы».

**Алесь РЫМАРУК,**
*г. Баранавічы*

## *Радкі з лістоў*

ШЧЫРА КАЖУЧЫ, я ўжо стаміўся жыць у нашай чырвона-зялёнай краіне. Мне 26 гадоў, але я не бачу тут для сябе ніякай перспектывы, хаця і маю вышэйшую адукацыю. Трэба, відаць, ехаць «за бугор».

**Аляксей В.,** *г. Брэст*

ДЗЯКУЮ РЭДАКЦЫІ за вельмі цікавыя артыкулы пра змаганне польскай «Салідарнасці». У нас пра гэта практычна нічога не пісалі: ні ў 80-я гады (тады была цэнзура), ні цяпер (па вядомых прычынах). Таму для многіх людзей, у тым ліку і для мяне, вашыя публікацыі — сапраўднае адкрыццё «Салідарнасці». Нам трэба вучыцца ў палякаў, якія паспяхова змагаліся з дыктатурай у нашмат горшых умовах, чым нашыя цяперашнія.

**Сяргей ПЯТРОЎСКІ,**
*г. Мінск*

ДЗЕНЬ ДОБРЫ, паважаная рэдакцыя! Мяне завуць Алеся. Я вучуся ў школе, пішу вершы, размаўляю на беларускай мове і шчыра не разумею нашую ўладу. Вашу газету я чытаю не вельмі часта (з-за бацькоў), але, калі яна трапляе да мяне, — гэта сапраўднае свята.

**Алеся Т.,**
*г. Мінск*

**РАСПОРЯЖЕНИЕ**

Председателя Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь

3 августа 1998 г. № 62-Р

**О командировании депутата Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь Кулаковского Ю.А. и сопровождающего лица на Украину**

1. Командировать депутата Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь **Кулаковского** Юрия Александровича на Украину (г. Ялта) с 31 августа по 6 сентября 1998 года для участия в конференции «Права человека: свобода от бедности».

Командировать на Украину (г. Ялта) с 31 августа по 6 сентября 1998 года сопровождающее лицо – ведущего специалиста отдела по обеспечению деятельности Постоянной комиссии Палаты представителей по правам человека и национальным отношениям Смагину Ольгу Владимировну.

2. Принять к сведению, что все расходы, связанные с поездкой Кулаковского Ю.А., оплачиваются за счет средств Программы развития ООН.

3. Финансирование поездки Смагиной О.В. (проезд, проживание, суточные) произвести за счет сметы расходов на содержание Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь.

А.МАЛОФЕЕВ

**Шаноўная рэдакцыя!**

**Дасылаю вам копію распараджэння таварыша Малафеева. На мой погляд, гэты дакумент яскрава сведчыць пра марнаванне народных грошай. Мяркуйце самі: навошта ў Ялце «змагару за правы чалавека» таварышу Кулакоўскаму яшчэ і «сопровождающее лицо» ў асобе Вольгі Смагінай.**

**І.М.,** *г. Мінскі*

# Яшчэ раз пра ліцэй

## *Карэспандэнту Расціславу Пермякову ад Уладзіміра Коласа*

Паважаны Расціслаў. Чалавек вы яшчэ малады, таму дазволю сабе даць вам некалькі парадаў.

Прафесія журналіста, якую вы сабе абралі, нечым падобная на прафесію сапёра: і там і тут невялічкая недакладнасць ці памылка можа прывесці да вельмі непрыемных вынікаў. У якасці прыкладу можна працытаваць хаця б класічную і банальную фразу «казніць, нельга памілаваць», дзе не слова і не літара, а толькі знак прыпынку можа істотна змяніць сутнасць выказвання.

У вашым артыкуле пра сітуацыю ў ліцэі, які быў надрукаваны ў «Навінах» 25 жніўня, на жаль, ёсць памылкі. Пачнем з назвы: «У ліцэй прыйшоў новы дырэктар». Назва эфектная. Але ці сапраўды вы, калі прыходзілі ў ліцэй 24 жніўня, бачылі там новага дырэктара? Нават сёння, 26 жніўня, калі я пішу гэтыя словы і да пачатку навучальнага года засталося самі палічыце колькі дзён, загад аб кіраўніцтве ў ліцэі яшчэ не падпісаны. Працуем і кіруем, як і раней.

Далей ёсць у вас такая фраза: «Уладзімір Колас пераконвае ўсіх, што ніякія кадравыя змены не паўплываюць на якасць педагагічнага працэсу...». Нішто сабе. Так вось цэлымі днямі хаджу і ўсіх пераконваю. Паўтараю для чытачоў «Навінаў»: я сапраўды перакананы, што, калі будуць дакладна выкананыя ўмовы, пры якіх адбудуцца мяркуемыя кадравыя перамены, то гэта сапраўды не паўплывае на навучальны працэс. Але толькі калі будуць дакладна выкананыя гэтыя ўмовы. Як кажуць, адчуйце розніцу.

Цяпер хачу патлумачыць, што я пагадзіўся на гэтыя перамены, хаця яны мне зусім не падабаюцца, каб паказаць, што ў справе ліцэя для мяне існуе толькі ліцэй, а не, напрыклад, палітычны капітал ці ўласныя амбіцыі. Я пагадзіўся на гэта таму, што сапраўды думаю, што тыя, хто лічыць Беларусь сваім домам і хоча ёй лепшай будучыні, павінны не рычэць адзін на аднаго, калі яны па-рознаму бачаць шляхі ў пошуках гэтай будучыні, а шукаць паміж сабой паразумення і кампрамісу. Уменне знайсці такі кампраміс і ёсць галоўным паказчыкам цывілізаванасці народа, краіны. Усім нам да гэтага яшчэ далёка. Але ў дадзенай сітуацыі я ўбачыў, што мне шчыра працягнулі руку, і вырашыў не хаваць сваёй рукі за спіну. Упэўнены, што калі ўсё адбудзецца так, як дамовіліся, гэта пойдзе на карысць, і не толькі ліцэю. Ну, а калі не... Выйсці на барыкады заўсёды паспеем, але барані нас ад гэтага Бог. Тым больш, што справа тут літаральна тычыцца нашай будучыні — нашых дзяцей.

Менавіта пра гэта, паважаны Расціслаў, я і тлумачыў вам ці не цэлую гадзіну. А цяпер мушу тлумачыць зноў і прасіць шаноўную газету надрукаваць гэтыя тлумачэнні, бо ўжо стаміўся паўтараць іх усім, для каго ваш артыкул сітуацыю не праясніў, а наадварот, заблытаў.

З павагай,

**Уладзімір КОЛАС**

КАДРЫ

# Мінск амаль як Ольстэр: камуфляж, аўтаматы, сабакі...



# Опора президента

**Валерий КАРБАЛЕВИЧ**



Лукашенко с большой ностальгией вспоминает систему государственного управления в СССР, жалеет о ее разрушении и пытается восстановить наиболее существенные элементы. Поэтому не случайно с каждым годом его правления возрастает роль силовых структур и прежде всего спецслужб. Они становятся опорой режима, существенным фактором его жизнеспособности, главным звеном государственной власти.

Уже через полгода после вступления в должность Лукашенко заявил: *«Я готов поддержать МВД, КГБ и армию..., потому что они — опора президента во всех сферах»*, *«Вертикаль создана. Опора сделана на КГБ, МВД»*. Выступая на коллегии КГБ 20 декабря 1996 г., он констатировал: *«Сотрудники спецслужб являются ядром белорусского общества»*, *«КГБ — основа сильной президентской власти»*, *«Моя судьба как политика тесно связана с КГБ»*.

Укрепление силовых структур стало важнейшим направлением политики президента. Сегодня в стране действуют семь служб с правом ведения оперативно-розыскной деятельности. Причем некоторые из них с весьма сомнительной правовой основой. Так, до мая 1998 г. деятельность Службы безопасности президента не регламентировалась законами. А между тем активно участвовала в репрессиях оппозиции, начиная с апреля 1995 года, когда насильственно были депортированы из зала парламента 19 депутатов, объявивших голодовку.

## Полицейское государство

Беларусь все больше становится похожей на полицейское государство. В органах МВД служит около 120 тыс. человек, что превышает численность вооруженных сил страны в 1,5 раза. Количество работников органов внутренних дел на душу населения у нас в 4,5 раза больше, чем в соседней Польше (100 тыс. полицейских на 48 млн. жителей).

Резко возросло финансирование этих структур. Удельный вес расходов на содержание органов внутренних дел в общей сумме расходов государственного бюджета составлял в 1994г. 2,6%, в 1995 г. — 4,08%, в 1996 г. — 4,6%. Соответственно на органы государственной безопасности: 1994 г. — 0,44%, 1995 г. — 0,7%, 1996 г. — 0,8%. В последние два года определить подлинные расходы на силовые структуры, спецслужбы стало сложно ввиду существования у главы государства нескольких бюджетов.

Такое огромное внимание деятельности спецслужб обусловлено тем, что их функции в нашем государстве намного шире, чем в демократической стране. Убежденность Лукашенко в том, что все общественные проблемы можно решить административно-командными методами, трансформировалась во вполне определенные задачи, которые поставлены перед КГБ и МВД. В частности, на их плечи взвален целый комплекс экономических проблем. Так, милиции поручено стать важным инструментом поддержания валютного курса (борьба с «менялами»). А председатель КГБ Мацкевич в качестве недостатков деятельности комитета отмечал слабую помощь в продвижении продукции белорусских предприятий на внешний рынок.

Лукашенко вернул спецслужбам те функции, которые они имели в СССР. Принятый недавно закон «Об органах государственной безопасности Республики Беларусь» предусматривает, что КГБ, как и в советские времена, является одновременно спецслужбой, правоохранительным органом и органом государственного управления.

## Живут и работают «по Дзержинскому»

Беларусь — единственная посткоммунистическая страна, где КГБ сохранил свое прежнее название. Что очень знаменательно. Не только не скрывается, а настойчиво выпячивается историческая преемственность нынешних белорусских органов госбезопасности с их зловещими предшественниками. В 1997 г. в РБ на официальном государственном уровне торжественно отметили 80-летие ВЧК-КГБ и 120-летие со дня рождения Дзержинского. Председатель КГБ Мацкевич объявил, что белорусские чекисты будут действовать под девизом «Жить и работать по Дзержинскому». Совсем не случайно в государственных газетах появилась статья Залесского, оправдывающая сталинские репрессии. А прокуратура получила задание разрушить единственный официально признанный в Беларуси символ тоталитаризма: доказать, что в Куропатах расстреливало не НКВД, а гестапо.

После ноября 1996 г. власти перестали маскировать, что одним из важнейших направлений деятельности спецслужб является борьба с политическими противниками режима и лично президента. Через месяц после референдума председатель КГБ Мацкевич поставил перед своим ведомством задачу не пропустить попытки политической оппозиции реанимировать свои структуры и дестабилизировать обстановку в стране.

Но спецслужбы борются не только против оппозиции. Они занимаются всеобщим политическим сыском, проверкой лояльности, поиском компромата на высших должностных лиц. При этом спецслужбы не ограничены никакими законами. Уже не раз Лукашенко с обескураживающей наивностью, как бы мимоходом давал понять, что ведется прослушивание представителей оппозиции, депутатов. Летом 1996 г. на совместном заседании Кабинета министров и Совета безопасности Лукашенко, желая похвалить главу правительства Чигиря, простодушно заявил, что тот даже дома в приватных разговорах с женой не позволяет себе критиковать президента. А «признание» президента в прослушивании разговоров западных послов вызвало международный скандал.

## А судьи кто?

Понятно, что создаваемое Лукашенко государство не может быть правовым по определению. Отчасти это обусловлено воинствующим правовым нигилизмом самого президента. Он относится к праву в полном соответствии с социалистическими традициями. Его представления, основанные, как и у всех советских людей, на уважении не к закону, а к начальству, остаются на уровне обыденного сознания. Он уверен, что если президент «всенародно избранный», то может делать все, что заблагорассудится. Отсюда его откровения. *«Закон этого не разрешает мне делать. Честно говоря, я пошел на нарушение закона»* (Звязда, 24 сентября 1994 г.). *«Я обложен этими законами. Я не посмотрю ни на закон, ни на что»* (Из выступления президента перед ветеранами 2 февраля 1995 г. — Свабода, 1995, № 6). *«Порой приходится спасать государство, нарушая закон»* (Из беседы Лукашенко с работниками завода «Горизонт» — Советская Белоруссия, 15 мая 1996 г.). *«Если только хоть маленькая будет зацепка, я вам обещаю — без суда и следствия всех до единого, кто причастен к этому — в каталажку»* (Из выступления президента по Белорусскому телевидению 20 июня 1996 г.). *«Да разве я буду глядеть на какие-то законы, если страдает рядом человек?»* (Из интервью Лукашенко группе российских журналистов 15 мая 1998 г. — Белорусский рынок, 1998, № 19).

Лукашенко объявил, что принцип разделения властей стал угрозой для нашего государства. Еще два года назад президент выдвинул оригинальную по новизне и новаторству концепцию о «стволе» (президентская власть), на котором должны расти остальные «ветви» власти (законодательная и судебная). После ноябрьского референдума этот доморощенный ботанический мутант начал усыхать. «Ствол» эволюционировал в столб с обрубленными ветками.

Еще в июле 1996 г. в беседе с журналистами, отвечая на вопрос о взаимоотношениях с судебной властью, Лукашенко сказал: *«Здесь дело обстоит несколько проще, ведь по Конституции она является фактически президентской. Да, декларирована самостоятельность судов, но назначает и снимает судей с занимаемых должностей, кроме членов Верховного суда, президент. В силу этого президенту проще проводить свою политику через судную власть»* (Советская Белоруссия, 12 июля 1996 г.). Напомню, что речь шла о старой Конституции, где власть президента еще чем-то ограничивалась.



Теперь суды оказались в полной зависимости от президентской вертикали, начиная от назначения судей до обеспечения их помещениями, транспортом, предоставления им жилья. Что касается последнего, то президент летом 1997 г. своим указом объявил квартиры, выделяемые вертикалью судьям, служебным жильем со всеми вытекающими отсюда правами на него. Чтобы ни у кого из судей не возникало соблазна поиграть в независимость.

Таким образом, функции судебной власти у нас иные, чем в правовом государстве. Она служит не столько закону, сколько исполнительной власти, является инструментом в ее руках. Иллюстрацией этого могут служить многочисленные примеры судебных процессов над представителями оппозиции, о чем много писали независимые газеты.

Совершенно не стыкуется с самим понятием права и тот факт, что президент своим указом созвал всебелорусский судейский «партхозактив» (съезд) и дает указания судьям. Лукашенко, как строгий начальник среди своих подчиненных, отчитал их за либерализм, указал на ошибки при вынесении приговоров и предупредил, что поступающие к нему жалобы на деятельность судов находятся на особом контроле. Он потребовал от судов еще более тесного «взаимодействия с исполкомами».

Таким образом, с самого начала своего правления Лукашенко взял курс на ликвидацию правового государства. Постепенно сила права в стране была заменена правом силы. Кульминацией этого процесса было незаконное введение новой конституции в ходе референдума 24 ноября 1996 г.

## Репрессии

Они выполняют несколько функций. Одна из них — внедрение в общественную жизнь фактора страха. Причем не только для запугивания ныне действующих или потенциальных противников режима. Страх должен стать важным фактором экономической жизни. В рамках формируемой экономической модели роль материальных стимулов, которые в нормальных хозяйственных условиях являются основным двигателем развития, сильно ограничена. Опыт строительства социализма в СССР показывает, что в какой-то мере их можно заменить энтузиазмом и страхом. Для энтузиазма нужна великая идея и совсем другие исторические условия. Ничего этого сейчас нет. Остался фактор страха. В 30-е гг. «борьба с вредительством» выполняла важную хозяйственную функцию. Сегодня с помощью страха президент пытается заставить работать умирающую экономическую модель, выжимая из нее последние соки. Его действия по-своему логичны. Либо менять систему, либо закручивать гайки и строить лагеря.

В условиях авторитарного режима, когда контроль над правящей элитой со стороны общества отсутствует, репрессии нужны и для удержания на коротком поводке у властителя всех звеньев номенклатуры. В противном случае бюрократия выйдет из-под контроля и превратится в самостоятельную политическую силу со своими собственными интересами, действующую автономно от «батьки» и даже диктующую ему свою волю. Так было во времена Брежнева и отчасти уже в независимой Беларуси в период правления Кебича.

Быть сегодня в Беларуси руководителем — самая опасная профессия. Арест Винниковой должен был запугать всех банкиров. Периодически «прореживают» директоров предприятий (наиболее известные примеры: суд над директором бобруйского «Фандока» Тарановым, суд над директором могилевского «Магатекса» Семеновым). Арест председателя АО «Рассвет» Старовойтова стал предупреждением всем председателям колхозов. А наручники на руках министра сельского хозяйства Леонова — это угроза всей правящей верхушке. Все хозяйственные руководители работают в условиях перманентного террора контролирующих органов. Начальство у нас всегда не любили. Доказать, что именно оно виновато в плохой жизни народа, труда не составит. Любые, самые жесткие меры Лукашенко против руководителей пройдут под бурные овации его электората.

И тем не менее попытка восстановить старую советскую модель управления государством рано или поздно обречена на провал. Эта политика находится в вопиющем противоречии с объективными общемировыми тенденциями. Саморазложение тоталитарной системы и стихийное развитие гражданского общества, идущее вопреки ожесточенному сопротивлению властных структур, зашло настолько далеко, что остановить эти процессы невозможно, даже если превратить всю страну в ГУЛАГ. Второй раз историю можно повторить только в виде фарса.

